ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА І МЕНСКАГА КОМІТЭТАЎ ЛЕНІНСКАГА КОМУНІСТЫЧНАГА САЮЗУ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ

№ 124 (506)

НЯДЗЕЛЯ 7 ЛІСТАПАДА 1927 г.

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА




## Стальнымі шэрагамі ў другое дзесяцігодзьдзе Кастрычніка!

Кастрычнікавая рэволюцыя заклікала мільёны рабочай і працоўнай сялянскай моладзі да сьвядомага творчага жыцьця.

Кастрычнікавая рэволюцыя паставіла моладзь у шэрагі змагаючыхся пролетарыяў, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі за сваю клясавую перамогу, за перабудову сьвету на комуністычных пачатках.

Кастрычнікавая рэволюцыя нарадзіла адзінага кіраўніка мас рабоча-сялянскай моладзі **ленінскі комсамол**, актыўнага творчага ўдзельніка, пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў у клясавай барацьбе, у барацьбе за соцыялістычнае будаўніцтва, уладаючага «трайной сьмеласьцю», сьмеласьцю ленінскай.

Комсамол, зьяўляючыся рэзэрвам УсеКП(б), быў, ёсьць і будзе варты імя свайго вялікага настаўніка **Леніна**, быў і будзе вернай апорай дыктатуры пролетарыяту; дапамагаў і дапамагае партыі выконваць заветы **Леніна** аб умацаваньні саюзу рабочых і сялян, быў і будзе байцом арміі Комуністычнага Інтэрнацыяналу; змагаўся і будзе змагацца за саюз працоўных нацый усяго сьвету; змагаўся і будзе змагацца пад кіраўніцтвам партыі з усякімі спробамі паслабіць партыю, з усякімі ўхіламі ад ленінізму і г. д.

Ленінскі комсамол Беларусі налічвае ў сваіх шэрагах к 10-годзьдзю Кастрычніка—60.932 члены.

Вакол гэтага асяродку яднаюцца сотні тысяч рабоча-сялянскай моладзі, якая ўцягваецца ў соцыялістычнае будаўніцтва.

Ленін, кажучы аб задачах комсамолу і моладзі, вогул сказаў: «Задача складаецца ў тым, каб вучыцца».

Кажучы аб вучобе моладзі, **Ленін** зазначаў, што бяз працы, без барацьбы, кніжныя веды комунізму з комуністычных брошур і твораў роўна нічога ня варты затым, што яны прадаўжалі-б стары разрыў паміж тэорыяй і практыкай, той стары разрыў, які складаў самую агідную рыску старой буржуазнай грамады.

Мова лічбаў адказвае нам на тое, ці выконваем мы гэты завет **Леніна**.

У саветы абрана і працуе моладзі ад 18 да 23 год—6147 чалавек, з іх 47 проц. комсамольцаў. У органах профэсыйных саюзаў абрана і працуе моладзі 5292 чалавекі.

11.439 чалавек у саветах і кіраўнічых органах профсаюзаў, у гэтых важнейшых установах рабочых і сялян, моладзь актыўна ўдзельнічае ў будаўніцтве соцыялізму. Мы тут не гаворым аб тысячах моладзі, якая ўдзельнічае ў працы камітэтаў узаемадапамогі, коопэрацыі, добраахвотных таварыствах (МОПР, ТСА-авіяхім і г. д.).

У тэхнікумах, школах ФЗВ, профшколах, рабфаках, школах сялянскай моладзі, у школах рабочай моладзі вучыцца 29.500 маладых рабочых і сялян. На гэтыя віды школ дзяржава траціць 3.671.844 рублі.

Вышэйшыя навучальныя ўстановы сталі маемасьцю рабочых і сялян. У агромністай сетцы політычных, культурных, тэхнічных гурткоў, моладзь набывае веды, вельмі неабходныя для ўдзелу ва ўсёй будаўнічай працы краіны.

Гэтыя лічбы кажуць за выкананьне намі заветаў **Леніна**: «вучачыся—змагайся, змагаючыся—вучыся», гавораць аб тым, што дала Кастрычнікавая рэволюцыя моладзі.

У нашай вучобе і працы многа недахопаў і цяжкасьцяў, але «цяжкасьці існуюць для таго, каб іх перамагаць».

Кастрычнікавая рэволюцыя заваявала ў капіталістых краіну, змораную вайною і разбураную контр-рэволюцыяй. У працягу 10 год рабочая кляса і працоўнае сялянства, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, залячылі раны нашай краіны, перамаглі контр-рэволюцыю і разруху, цьвёрдымі крокамі ідуць да соцыялізму.

Рабоча-сялянская моладзь, пад кіраўніцтвам комсамолу і комуністычнай партыі, цесна самкнутымі шэрагамі крочыць уперад, у другое дзесяцігодзьдзе Кастрычніка, для сусьветнай рэволюцыі!

А. Бараньнікаў.

**Няхай жыве сусьветны Кастрычнік!**

**Няхай жыве партыя Леніна — правадыр Кастрычніцкага паўстаньня, організатар соцыялістычнага будаўніцтва, кіраўнік пролетарскай дыктатуры!**

# КАСТРЫЧНІК У ЗДЫМКАХ.

*Ахвяра рэволюцыі.*



Тав. Сьвярдлоў.



На варце Смольнага.



Нязмерны правадыр Кастрычніка.




*Ахвяра рэволюцыі.*



Тав. Валадарскі.

## На Зімні.



Чырвонаармейцы наступаюць на дварэц.

## Смольны – штаб рэволюцыі.



Бальшавіцкія аўтамабілі.




## Пасьля іх уходу.



С...ая юнкерамі мануфактурная фабрыка.

## Ля барыкад.



Масква ў дні навальніц.




## Расьце наша соцыялістычная прамысловасьць.



Новы бэнзінны завод.

## Савецкая нафта.



Новая вышка на нафтавых промыслах

## Асушаем балоты.



Першая ў СССР прэс-машына для капаньня канаў пры мэліорацыі.

## 1927 год.

## Мацнее савецкая рацыяналізацыя.



Мэханізацыя работ па здабычы торфу.



Сялянскі ўнівэрсытэт у Горках.

Галоўлітбел № 24867.

...тары: А. БАРАНЬНІКАЎ. А. КУРЦІК.